№ 5. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:
на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.



№ 5 (97). Год II. Вільня, 16 студня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Прыпадкі у Варшаве.

### 15 студня.

**Заходні тэатр:**

На поўначы ад Соммы далей трывае востры агонь артылерыі. Наступленьня патрулёў ворагоў у некалькіх мейсцах адбіты. Нашым дружынам разведчыкоў у удачных опэрацыях удалося ўзяць палонных і кулемёты.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Пры бурнай пагодзі баевая чыннасць выяўлялася слаба.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* На поўначы ад даліны Сусіта даволі значныя расейскіе і румынскіе сілы атакавалі нашы пазыцыі. Ворагі ўсюды адбіты.

*Фронт Макензэна*: Між Буцаулем і усьцем Сэрэта, ня гледзячы на благую пагоду, ўзят штурмам апошні пункт на палудні ад Сэрэта, які ешчэ быў у расейскіх руках, Вадіні.

*Македонскі фронт*: Без перамен.

### Аб мірным прэдлажэньні Імперата Вільгэльма.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.) 15.I. «Norddeutsche Allg. Ztg.» пішэ аб гісторыі мірнаго прэдлажэньня цэнтральных гасударств, каторае ворагі стараліся прэдставіць, як несумленны ваенны крок, і памешчае ніжэйпісанае пісьмо Імператара да імперскаго канцлера:

Новы Палац, 31.X.16.

„Мой дарагі Бэтманн!

„Я пасьля акуратна абдумаў нашу гутарку. Ясна, што народы нашых ворагоў, астаючыся пад ваенным псыхозам ад пачатку вайны с прычыны несумленнасьці, ашуканств і ненавісьці, ня маюць мужоў, каторые маглі-бы і мелібы моральную адвагу сказаць ратуючае слово. Зрабіць мірнае прэдлажэньне—гэта моральны учынак, каб вызваліць сьвет—гэтак сама і нэутральных — ад ціжару, які гняце ўсіх. Дзеля такога ўчынку патрэбен монарх, каторы мае сумленьне, пачуваецца да атказу перад Богам, мае сэрцэ як для сваіх людзей, так і для ворагоў, і, незалежне ад магчымаго сьведомафальшываго тлумачэньня яго кроку, мае волю вызваліць сьвет ад яго мук. Я маю на гэта адвагу. С помаччу Бога я зраблю спробу. Падайце мне скора ноты і прыгатуйце ўсё.

WILHELM J. R.“

„Нашы ворагі — пішэ «N. Allg. Ztg.“ — могуць быць пераконаны, што нестрыманая станоўчасць, з якой мы давядзем да пабеднаго канца вайну, прадаўжаць каторую нашы ворагі прымушаюць нас, будзе адпаведаць сумленнасьці жаданьня міра, выказанаго ў гэтым пісьме Імператара“.

### Рэволюцыйны рух у Індіі.

ГААГА. Як даносіць тыднёвы журнал «Spektator», у-ва ўсіх кутках Індіі развіваецца рух за незалежнасць Індіі. Рух гэты глаўным чынам вядуць індусы, каторые былі студэнтамі у Англіі, але, вярнуўшыся дамоў, ня маюць роўных правоў нават з апошнім англічанінам.

### Грэцкая трагедія.

ЛОНДОН. (В.Т.Б.) 14.I. Рэўтэр даносіць з Афін:

З грэцкіх офіцыозных кругоў ідуць весткі, што староннікі Вэнізэлоса занялі остроў Цэрыго.

### Польская Дзержауная Рада.

ВАРШАВА. 14.I. У гісторычнай салі нарад у местовым палацу, дзе 5 лістапада 1916 году адбылося апавешчэньне каралеўства Польшчы, 14.I ў палудні генэрал-губэрнатары Бэзэлер і Кук аткрылі тымчасовую Дзержаўную Раду.

У панядзелак у палудзень пасьля урочыстаго набажэнства адбылося першае заседаньне Дзержаўнай Рады ў палацу Красінскіх. Парадак дня быў гэткі: выбары кароннаго маршалка і яго намесьніка.

### Заступнік Бэнкендорфа.

БЭРЛІН. Штокгольмскі карэспандэнт «Voss. Ztg.» даносіць, што весткі нямецкіх газэт, бытцым Сазонов назначэн райчым цара у заграничных справах, неправўдзівые. Аднак, Сазонова неофіцыальна пыталіся, ці ён гатоў ехаць у Лондон на мейсцо Бэнкендорфа.

Падобнае пытаньне зроблено Боткіну.

## Не запужаюць!

У апошніх часах нашы «прыяцелі», каторые ня могуць сцярпець, што беларусы працуюць дзеля самабытнаго культурна-нацыональнаго жыцьця,—выдумалі новы спосаб змаганьня з беларусамі. Спосаб гэты—дужа просты: яны стараюцца *пужаць* больш слабых духам с-паміж беларусоў, пускаючы чуткі, бытцым раней ці пазьней вернуцца да нас расейцы і тады беларусоў ждуць нейкіе «страшэнные кары».

Хто знае расейскую палітыку ў нашым краю, той, пачуўшы гэткіе гутаркі з вуст людзей, на каторых народ прывык глядзець с пашанай, мо' сперша і запраўды спужаецца. Але гэткі перапуд може трываць толькі адзін момэнт: добра падумаўшы, трэба прызнацца, што *для ніякіх страхоў* у нас *мейсца німа*.

Перш за ўсё нельга даць веры, што наш Край вернецца назад пад расейскае панаваньне. Наадварот, з ваеннаго пагляду такі факт здаецца зусім немагчымым. Але, нават дапускаючы немагчымае: што Край гэты пасьля міру забярэ назад Расея,—нам, беларусам, баяцца нейкіх кар німа чаго: мы нічога «праступнаго» нават у адносінах да Расейскаго гасударства ня робім. Уся работа беларусоў ад самаго пачатку нямецкай окупацыі—асабліва с таго момэнту, калі нямецкіе ўласьці, забараніўшы ужываньне расейскай мовы, далі поўные правы беларускай,—уся работа наша мае на мэці адно: не даць народу беларускаму ўтануць у моры чужой нам культуры, ды захаваць такіе нацыональные адносіны на Беларускай зямлі, якіе былі тут 50, 100, 200 ці 500 гадоў таму назад. У гэткай рабоці, як аткрываньне беларускіх школ, як устройство курсоў для народных вучыцелёў, друкаваньне кніжэк да навукі пабеларуску, пастаноўка на сцэні беларускіх п'ес, організацыя клюбу беларускаго, коопэратывы, рамесьніцкіх варштатоў,—нават найбольш непрыхільны да нас расейскі пракурор ня мог бы знайсьці «праступку» проці расейскай уласьці, каторая, апрыч школ, сама на ўсё гэта пазваляла. Дый, наагул, у тым, што народ беларускі ня хочэ ўміраць, ня можэ быць і німа ніякай крыўды ні для каго.

Наадварот, крыўду нашаму народу робяць тые, хто, карыстаючы з адходу расейцоў, гэтак шчыра стараўся прысвоіць сабе ўласць над беларускім народам, хто ўсе сілы свае—духовые і матэр'яльные—абярнуў не на кармленьне галодных, не на помач бязвінным ахвярам вайны, а на нішчэньне ўсяго беларускаго, ўсяго тутэйшаго. Вось, гэтым паном пры змені палітычных варункоў прышлося бы здаць справу са сваіх чыннасьцей, с прычыненых беззашчытнаму «простаму» народу крыўд, са сваіх непамерных апэтытоў. І хоць як-раз яны-то і занімаюцца пужаньнем беларусоў, ласкава прынімаючы нас пад сваё скрыдло, — баяцца нам ня трэба і ня гожэ. Гэтым сяўцом страху і розных баламуцтв мы можэм с поўным спакоем даць цьвёрды атказ:

— *Не запужаеце*!

*І. Мелешка.*

### Скандал на аткрыцьці Дзержаунай Рады Польшчы.

ВАРШАВА. 14.I. У Каралеўскім замку сягоньня адбылося аткрыцьце Дзержаўнай Рады Польшчы. Гэнэрал-губэрнатар Бэзэлер сказаў прамову, ў якой, між іншым, гаворыцца:

„Наша пабеда будзе і вашай пабедай. Першы способ дзеля вашай двайной задачы—гэта утварэньне свае́й арміі. Зразумейце веліч гэтай задачы, якую бярэ на сябе старонка...“

Аўстрыяцкі генэрал-губэрнатар Кук сказаў пасьля прамову, гаворачы між іншым:

„Не забывайцеся, панове, што гасударство, каторае хочэ быць сільным і здольным да жыцьця, ня можэ быць толькі дарам долі. Народ упорнымі стараньнямі і поўнай ахвяр працай павінен выказаць сваё жаданьне здабыць сваё гасударство. Ен павінен быць гатовы за яго змагацца і праліваць сваю кроў. Правядзіце гэту праўду у сьведомасць усяго вашаго народу...“

Член дзержаўнай рады, Немоевскі, атказваючы на гэта, між іншым, сказаў:

„Мы разумеем нашу гісторычную міссію, каторая вымагае пашырэньня нашай граніцы у старану вызволеных ад расейскай уласьці і цягнучых (?) да Польшчы зямель...“

## Бяз веры.

У той крытычны момэнт, які цяпер перажывае Расея, правіцельство, каторае вызвало і вядзе страшэнную, нячутай меры вайну, можэ кіраваць старaной толькі пры аднэй умове: што народ верыць яму, верыць, што яно дабіваецца карысьці для свайго народу. Але расейскаму правіцельству цяпер ужо ніхто ня верыць:

ня кажучы аб левых партіях, ня кажучы аб опозыціі, яму перэсталі верыць нават тые, хто заўсёды бараніў яго, не пытаючыся, ці яно паступае справедліва, ці не.

Яркім доказам таго, што нават «правые» казённые прыслужнікі утрацілі веру да паноў міністроў, служыць прамова „самаго праваго с-пaміж правых“, вядомаго ўсім *Пурышкевіча*. Пурышкевіч сказаў у Думе прамову, каторая мае вагу «абвініцельнаго акту» проці палітыкі правіцельства.

„Маючы такі хаос у радах правіцельственай уласьці, які мы цяпер бачым, маючы з гэтай прычыны зусім дэзорганізованы тыл арміі, — мы разумеем, што момэнт пабеды адсоўваецца надоўга!“ — казаў Пурышкевіч. Раней у Думе ішлі гутаркі аб давер'і правіцельства да грамадзянства. «Але цяпер паднімаецца пытаньне не аб давер'і правіцельства, а аб давер'і грамадзянства правіцельству». «Я скажу, што ёсць аснова гаварыць, што правіцельство не заслужывае тэй веры, якой яно жадае ад грамадзянства». «Грамадзянская думка і ўласць ня могуць згаварыцца. Пры такім палажэньні нельга быць спакойным за заўтрашні дзень, нельга ні жыць, ні працаваць, бо кожын новы міністэр лічыць, што момэнт яго выступленьня — гэта новая эра. Адна эра — ад нараджэньня Хрыста да яго ўступленьня ў міністэрство; другую эру аткрывае ён сам. Мы бяз розніцы партій дзівуемся не таму, што на „верхах“ шукаюць чэлавека, здольнаго заняць адпаведнае мейсцо; мы дзівуемся таму, што ў гэткі цяжкі і адпаведны момэнт людзі або так дрэнна знаюць сябе, або гэтак рвуцца да кар'еры, што хапаюцца за кожнае пасуленае мейсцо, ведаючы напярод, што дзеля сумленнаго выпаўненьня сваей гасударственай павіннасьці ў іх нехватае сілы“.

І далей Пурышкевіч прыводзіць рад фактоў, што „афэрысты ўселякіх гатункоў зарабляюць вялікіе грошы, і грамады цёмных фігур, для каторых мейсцо ў Сібіры — ў катарзе, баспечна рабуюць народ у тыле арміі“. Ня дзіва, што народ „быў галодны і неабаспечэны ды гэткім астаецца“. Пурышкевіч ня кажэ аб дробных машэнствах: ён называе імёны такіх „баброў“, як гeнэрал Воейков, каторы ўзяў ад міністра дарог Трэпова мільён рублёў на будову чыгункі, каб вывязьці сваё дабро з двара свайго „Кувакі“. Называе ён і бышаго міністра гр. Бобрінскаго, каторы, будучы міністрам, пасылаў па 70 вагоноў супэрфосфату у свой двор „Сьмелу“ ў той самы час, калі кожын вагон быў дораг дзеля перавозкі войск і спажыўных прадуктоў для арміі... Ціж пры такім правіцельстве можна мець веру да яго?

„Уся беда, — казаў Пурышкевіч, — у тым, што цёмные сілы высоўваюць на высокіе становішчы людзей, якіе ня могуць іх занімаць“. І, звертаючыся да правіцельства міма Думы, Пурышкевіч закончыў гісторычную прамову сваю славамі: „Калі ў міністроў павіннасць вышэй кар'еры, калі яны папраўдзі злучэны габінэт, — дык ніхай ідуць да цара і скажуць яму, што далей гэтак быць ня можэ!“

Так, гэтак далей быць не магло-бы ў якім-хоч гасударстві, апрыч Расеі. Тут усе партіі, ўвесь народ кідае правіцельству словы недавер'я, — а яно далей сідзіць на сваім мейсцы, яно ня хочэ адмовіцца ад уласьці, якая для яго лішне цяжкая. І бяз веры свайго народу, ня маючы ніводнай прыхільнай душы ў народзі, апрыч нанятых за грошы людзей, гэткае правіцельство дурыць народу свайму галаву пустымі абецанкамі „поўнай, аканчацельнай пабеды“..

Даволі пустых слоў! Народ ня верыць расейскаму правіцельству і гэтым выносіць яму сьмяротны прысуд. Ці толькі прысуд той будзе споўнен?!..

*Г. Б.*

# У Вільні і ваколіцах.

× **„Беларускі Календар“ на 1917** год выйшоў з друку і гэтымі днямі паступае ў прадажу.

Календар выйшоў у двох выданьнях: «кірыліцай» (рускімі літэрамі) і «лацінікай». Сьвяты каталіцкіе ў ім—па новаму стылю, праваслаўные—па стараму.

Апрыч звычайнай календарнай часьці, календар мае багаты аддзел публіцыстычны, каторы дае абраз беларускаго грамадзкаго і палітычнаго жыцьця за мінулый год, ды аддзел літэратурны, дзе падобрана вязанка вершоў і прозы беларускіх аўтороў.

«Беларускі Календар»—кніжка даволі вялікаго формату. На акладцы—гэрб „Пагоня“, якога калісь ужывалі безмала ўсе беларускіе ваеводзтвы і В. Кн. Літоўскае, ды цяпер ужываюць Вільня і Вітэбск.

Цэна календара—20 кап.

× **Праф. Абіхт аб нашых падручніках.** Вядомаму славісту, праф. Абіхту, каторы, як мы ўжо пісалі, вельмі цікавіцца беларускай мовай, мы паслалі па аднэй кніжцэ „Rodnych Zierniat“ і „Беларускай Граматыкі“. У сваім атказе праф. Абіхт пішэ:

„Цёплы, патрыотычны тон „Rodnych Zierniat“ перавысіў усе мае самые сьмелые спадзеваньня.

„Беларуская Граматыка — гэта бязспорна вельмі адважная работа. Гэта фундамэнт, на каторым ужо можна будаваць далей з надзеяй...“.

× **Як немцы называюць нашу зямлю?** Пакуль немцы ешчэ бадай нічога ня ведалі аб беларусах, яны называлі землі з беларускім насяленьнем найчасьцей „Polen“ (Польшча). „Знаўцы“ называлі ўсе гэтые землі „Westrussland“ (Заходняя Расея), а людзі, хоць крыху знаёмые з гісторыей нашаго Краю, —„Litauen“ (Літва). Толькі пасьля „аткрыцьця“, што ёсць беларускі народ, немцы пачалі шукаць найменьня для зямель, дзе жывуць беларусы. Адны проста перэтлумачылі слова Беларусь на нямецкую мову і назвалі яе „Weissrussland“; другіе, асабліва тые, хто быў знаёмы з украінскай справай і чытаў аб ёй нямецкую літэратуру, называюць нашу старонку „Weissruthenien“. Урэшці у апошнім часі выплыло новае імя: „Weissreussen“.

× **Беларускі тэатр.** Беларуская драматычная дружына на чароднае сваё выступленьне маніцца паставіць орыгінальную беларускую п'есу ў 2 актах „Паўлінка“, напісаную вядодым беларускім паэтам Янкай Купалай.

У „Паўлінцы“ выяўляецца той цікавы момэнт у жыцьці нашай вёскі, калі ў яе ўрываюцца першые праменьні грамадзкай сьведомасьці, спатыкаючы адпор цёмных сіл. І на гэтым грунці доля і шчасьце маладых ідэалістоў бязбожна нішчацца...

× **Аб пачтовых зносінах.** Дапускаюцца зносіны з Амэрыкай на спэцыальных картачках, которые можна купляць па 1 кап. за штуку.

У нэўтральные і варожые старонкі можна пасылаць весткі на друкаваных картах церaз «Auslandstelle» пры Обэр Ост. Кожын запрос каштуе 1 марку (53 кап.).

Уселякіе іншые зносіны з Амэрыкай і наагул з заграніцай заборонены.

× **Пазваленьня на печыво.** Паводлуг апавешчэньня Stadthauptmann'a, ўсе цукерні і булачные павінны ўраз-жэ атрымаць ад Lebensmittelabteilung пазваленьне на сваё прэдпрыемство не пазьней 20 студня 1917 году. Не папрасіўшы і не атрымаўшы пазваленьня нельга пячы і прадаваць печыво.

× **Фальшывые грошы.** З'явіліся падробленые расейскіе бумажкі 1, 3 і 5-рублёвые. Іх лёгка пазнаць па дрэннай паперы, бледнай фарбе і замазаным друку.

× **Кары за укрываньне ваенных сырцоў.** Прыказам з 27 сьнежня 1916 г. за укрываньне ваенных сырцоў пакараны гэткіе асобы:

Фэгэ Віленская (Шпітальная вул.) — на 10 мар.

Арон Яновскі (Жмудзкая) — на 30 м.

Шая Цыппэн (Ноўгародзкая)— на 20 м.

Ходэ Троцкі (Босая вул.) — на 20 м.

Лейба Хоніч (Жыдоўская вул.) — на 90 м.

Адам Корзон (Мільённая вул.) — на 20 м.

× **Курс рубля:** офіцыальны — 1 м. 90 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 22 ф., пры куплі—2 м. 26 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Крадзеные рэчы.** У аднаго зладзея знайшлі два добра захаваные зімовые пальтоты. Валадзельцы могуць звярнуцца да Крымінальнай Паліціі, Домініканская 1, пакой 15.

# БІБЛІОГРАФІЯ.

**Важнейшые польскіе працы аб Беларусі і беларусах.**

*D-r Tad. St. Grabowski.*

(Гл. пачатак ў № 4).

**Chotkowski Wład. Ks.**: Dzieje zniweczenia św. unii na Białorusi i Litwie w świetle pamiętników Siemaszki, (Kraków, 1898).

**Chrap... Jan**: Rzut oka na poezye ludu białorus. (Wilno, 1845).

# Каменная труна.

Непадалёк ад места Дзісны, с правай стараны тракту, што ідзе з Дзісны на Гэрманавічы, праежджаючы ўбачыш стромкую, кучэмкаватую горку, заросшую лесам. Горка гэта акружэна тонкім балотцам, а на версі яе, на самым шчыце, ляжыць вялічэзная каменная труна. Калі, хто і на якую памятку палажыў там гэну труну, гісторыя ня ведае, а народны сказ перэдае с пакаленьня ў пакаленьне ніжэйпісаную аповесць.

Калісь-то, даўным даўно, на горцы стаялі пышные харомы багатых баяр Няміроў. Харомы былі акружэны дубовым вастраколам і аблітые кругом вадой. Далёка славілося між ворагоў недаступнае Няміраўскае гняздо, а ешчэ далей іх радавая аружная слава непрымірымых воёў, уславіўшыхся несчысьлёнымі перамогамі на палёх бітв. У збройніцкай сьвятліцы няміраўскіх тутэйшых харомоў, на пачэсным мейсцы, вісеў каваны, чарлёны шчырым золатам шчыт і двуручны, абасечны меч слаўнаго Грымона Няміры, ўласьніка Алегаваго паходу на грэкоў. У княжай радзе, на палацкім замку, старшы роду Няміроў заседаў праваруч князя, на першым мейсцы. Гэткі то быў род Няміроў.

Ды толькі цяперашні нашчадак роду, пануры Бутрым, панізіў славу роду свайго. Не перамогамі ў бітвах з ворагамі памнажаў ён сваё багацьце, а разбоямі і крыўдай паднявольнаго люду. Глыбокіе падхаромные порубы напоўнены былі людзьмі, закаванымі ў дыбы, каторых уласнымі рукамі любіў катаваць Бутрым. Праходзячы міма Няміраўскаго двара, часта чувалі людзі стогны і плач, а часам хвалі акружаючаго харомы возерца выкідалі на бераг кавалкі чэлавечаго цела, нераз дзявочаго.

Цяжка жылося ў панурых Няміраўскіх харомах Бутрымавай жонцы, краснай пані Мары, і яна павернікам дум сваіх і журбом учыніла маладога баярчыца Стаўру Рамашковіча. Раз у ноч маёвую красную паню Мару асабліва востры жаль разабраў на сваю безпрытульную долю, і яна, у садку стоючы, сукланіўшыся на плячо баярчыца Стаўры, горка заплакала. У гэты момэнт у садок увайшоў баярын Бутрым. Грозна ён кінуў вокам на жонку і на маладога баярчыца. Моўчкі спыніўся, ляснуў у далоні на стральцоў сваіх; калі на клік яго з'явіліся яны,—азваўся панура баярын: —„Сягоньня ў нас будзе гучны банкет тут. Распаліце смалістые лучніцы, устаўце сталы цісовые, налійце мядоў і він заморскіх поўные вёдры, ды паклічце скрыпача майго“.

Мігам служба уставіла сталы і каля сталоў дубовые лавы, абітые медзьвядзінымі скурамі, а для баярына і баярыні паставілі два глыбокіе, на грэках прадзедамі здабытые, абіваные золатам крэслы. Смалістые лучніцы ярка асьветлялі сад. Скрыпач са скрыпкай стаяў нагатові. Баярын падыйшоў да скрыпача, ўзяў з рук яго скрыпку, крануў рукой струну і сарваў, крануў другую — і сарваў і гэтак да апошняй. —„Кепскіе у цябе, малойчэ, струны!“ — сказаў баярын.—„А я хачу сягоньня музыкі ёмкай, гучнай! Гэй, мае верные стральцы патужнікі, Станько, Гойніч і Рэзан, вазьміце во гэтаго падсуседзіча майго, Рамашковіча, за белые плечы і нарабіце да банкету струн! А ты, красна пані, жана мая, сядай побоч са мной у залатое крэсло і, пакуль слугі мае зматаюць матэр'ял на струны на тую во белу яблыньку, будзеш піці са мной, спраўляючы трызну па гладкім баярчыцу“, Страшные нават у Бутрымавай дружыне Станько, Гойніч і Рэзан, бліснуўшы толькі залітымі крывёй вачамі, прыняліся за крывавую справу: павалілі баярчыца на зямлю, распаролі жывот і пасьля, водзячы каля яблыні,—тэй самай яблыні, пад каторай паўгадзіны таму ён стаяў с краснай паняй Марай,—наматывалі на пень струны...

Не мінуло і гадзіны, як струны былі прамыты, пакручэны, пасушэны на агнёх і нацягнуты на скрыпку. Музыка зайграў вясёлую застольную песьню, але песьні тэй, ні голасу скрыпкі ня чула красная пані Мара. Бледная яна спакойна спала у крэсьлі сном вечным: сэрцэ яе ня вытрывало мужаўскаго банкетнаго пачастунку і разарвалося... Толькі баярын да ўсходу сонца з дружынай трызнаваў над маладымі нябошчыкамі, слухаючы плач скрыпкі ды заліваючы сумленьне віном.

(Канец будзе).

**Czarnowska Mar.**: O zabytkach mitologii słowiańskiej, dochowanych w zwyczajach ludu wiejskiego na Białej Rusi. „Tyg. Wileński“, r. 1817. str. 650 i n.)

**Czeczot Jan**: Pieśni wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, z dołączeniem pierwotnych w mowie krywiczańskiej. (Wilno, 1844).

**Czeczot Jan**: Piosnki z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idyotyzmy, w mowie sławiano krewickiej, z spostrzeżeniami nad nią uczynionemi. (Wilno, 1846).

**Danilowicz Ign.**: Liatopisiec Litwy i kronika ruska. (Części w „Dzienn. Wilen.“; w całości w wyd. A. Marcinkowskiego. Wilno, 1827. por. też «Kronikę» Stryjkowskiego, wyd. z r. 1864).

**Danilowicz Ign.**: Litewsko rusko latopiścy. («Dziennik Minist. Oświecenia Narod.» Warsz., 1840).

**Danilowicz Ign.**: Skarbiec Dyplomatów. (Wilno, 1860—62. T. I—II.—Licz. dokum. białorusk.).

**Dob. M.**: Siły ekonomiczne kraju zachodniego. Białoruś. („Kraj“ 1883—1884).

(Далей будзе).

## Апавешчэньне

У дадатку да апавешчэньня з 28 сьнежня 1916 г. аб заяўках загадываецца ніжэйпісанае:

1. Гаспадары або упраўляючые дамамі павінны ў тры дні заяўляць у прыналежны нямецкі Polizei-Revier аб кожным прыбыцьці ці выезьдзе на спэцыяльных заявачных лістках — гл. № 4.

2. Выежджаючые і прыбываючые асобы са свайго боку павінны сумленна даваць дамаўласьнікам або іх упраўляючым патрэбные дзеля заяўкі ведамасьці, паказваючы свае пашпарты Обэр Ост.

3. Гаспадары дамоў або іх упраўляючые павінны падаваць заяўкі на пісьме ў нямецкай мове, ужываючы устаноўленые формуляры, ў двох адзінакавых экзэмплярах, запоўніўшы чытэльна і ясна ўсе рубрыкі.

4. Дзеля заявак аб прыезьдзі (Anmeldungen) трэба ўжываць белые лісткі, а дзеля заявак аб выезьдзе (Abmeldungen) — зялёные лісткі. Лісткі гэтые можна купляць у нямецкіх паліцэйскіх участках (Polizei-Revier).

5. Членоў аднэй сям'і трэба заяўляць на адным лістку разам (у двох экзэмплярах). За членоў сям'і лічацца толькі: муж, жонка і дзеці, — а не іншые, родные, служба, кватэранты або другіе. Наагул жэ аб кожнай асобі трэба заяўляць на асобным лістку (у двох экзэмплярах).

6. Апрыч заяўкі гаспадарамі дамоў або іх упраўляючымі, кожын нова-прыехаўшый сюды павінен у тры дні сам сваей асобай заявіцца ў нямецкім Polizei-Revier, падаць заверэньне асобы на пісьме (пашпарт) і даць ведамасьці аб асабістым палажэньні.

7. За неспаўненьне вышэйпісанаго загаду, або за неакуратнае выпаўненьне яго вінаватых будуць караць паводлуг §§ 138 і 139 новаго расейскаго статута аб карах.

Вільна, 11 студня 1917 г.

Der Deutsche Stadthauptmann
Pohl.

## З усяго Краю.

### Мудры загад.

БЕЛАСТОК. Па загаду начальніка упраўленьня Беласток—Гродня, **вучыць дзяцей не панямецку і не ў роднай мові можна толькі с пазваленьня начальніка упраўленьня ў кожным асобным прыпадку.**

### Нотар'яльные справы.

БЕЛАСТОК. Па загаду Обэр Ост у землях упраўленьня Беласток—Гродня, апрыч далучэных сюды часьцей б. Сувальскай губэрні, міравые судзьдзі маюць права спаўняць чыннасьці нотар'юсоў. Аднак, нотар'юсы незалежне ад гэтаго і надалей будуць спаўняць свае чыннасьці.

### Заработкі ў Нямеччыне.

БЕЛАСТОК. Праз біржу працы ў Беластоку работнікі, выехаўшые ў Нямеччыну, прыслалі да хаты за той год 44,980 м. 35 фэн.

### Змена обэркватэрмістра.

КОУНА. Обэркватэрмістр пры Oberbefehlshaber'у Ost, генэрал-маёр v. Eisenhart-Rote, назначэн генэрал-інтэндантам палевой арміі. На яго мейсцо назначаецца палкоўнік генэральнаго штабу барон v. Brandenstein.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

### Грознае палажэньне.

СОФІЯ. Атрыманые боўгарскімі кіраўнічымі кругамі ведамасьці апісываюць унутрэнае палажэньне ў Расеі больш сур'ёзна, чым здавалося. У скорым часі набліжаюцца вельмі важные здарэньня шыбкімі крокамі. Адстаўка Трэпова і убіўство Распутіна—гэта запаведзь больш сур'ёзных прыпадкоў, каторые патрасуць расейскай дзэржавай. Станоўчые ваенные здарэньня на бэссарабскім фронці былі-бы, пэўне, сыгналам да катастрофальных прыпадкоў.

ШТОКГОЛЬМ. У апошніе дні ў Пецярбурзі было вельмі неспакойна. Абурэные апошнімі скандальнымі здарэньнямі грамады народу вельмі заварушыліся с прычыны разыйшоўшыхся чутак, быццым расейцы ізноў мелі надта вялікіе страты. Без ніякай крытыкі прыніміліся весткі аб уступленьні немцоў у Бэссарабію ды аб прарыве Дзьвінскаго фронту. Густые грамады людзей пацягнуліся да міністэрства заграніцчных спраў, дзе іх разагналі жандары.

Цывільны габінэт цара памыкаўся утварыць замест міністэрства Трэпова „баевы габінэт“, але гэта спроба не ўдалася с прычыны пратэсту Протопопова. Спадзяюцца, што цар на 1917 год назначыць за маршалка Дзэржаўнай Рады Шчэгловітова і за намесьніка яго — Штырмэра, ды гэта было-бы роўназначным разрыву з народным прэдстаўніцтвам.

### Заява Буканэна.

ШТОКГОЛЬМ. На апошнім банкеці англіцкай колоніі ў Пецярбурзі англіцкі пасол Буканэн, між іншым, сказаў:

„Калі-б увесь расейскі народ у свой час зразумеў вагу палажэньня, дык вайна была-бы ўжо сягоньня скончэна.

### Рэформы па вайне!

ЖЭНЕВА. Міністэр-прэзыдэнт кн. Голіцын сказаў прэдстаўнікам газэт, што ён хочэ працаваць разам з Думай і маніцца сазваць яе ізноў на 25 студня. Перамена расейскай унутрэнай палітыкі цяпер немагчыма. Рэформы павінны быць адложэны на пасьля вайны.

### Новые пазыкі.

КОПЭНГАГА. Прысланые с Пецярбурга расейскіе газэты пішуць, што расейскі урад вядзе перэгаворы з голандзкімі і амэрыканскімі банкамі аб вялікшай пазыцэ, каторая будзе забаспечэна капальнямі ў Сібіры і на Урале.

КОПЭНГАГА. „Berlingske Tidende“ даносіць, што пасьля канца падпіскі на ладжэную цяпер 3-мільярдную пазыку намечэна новая вялікшая пазыка з выйгрышнымі білетамі.

### Чаму забілі Распутіна.

БЭРЛІН. Ад толькі што прыехаўшай з Расеі асобы „Berl. Lok. Anz.“ даведалася гэткіе падробнасьці аб убіўстве Распутіна:

15 сьнежня ў гасподзі англіцкаго пасла Буканэна адбылася нарада блізкіх да двара асоб і палітыкоў. В. кн. Аляксей Міхайловіч здаў справу з узросту палітычнай сілы Распутіна, каторы можэ адбіцца шкодна на англіцка-расейскіх мэтах. Толькі звальненьне ад асобы Распутіна можэ даць пэўнае абаспечэньне. Лёс павінен назначыць, хто яго заб'е. На нарадзі была сестра цара, Ксенія Александроўна, князь і княгіня Юсуповы, Пурышкевіч, кн. Львов і б. міністэр Хвостов. Лёс выпаў на вялікаго князя, каторы ад гэтаго самлеў. Князь Юсупов і Пурышкевіч тады заявілі, што яны гатовы самі забіць Распутіна. Англіцкі пасол Буканэн даў слово, што англіцкае правіцельство іх абароніць.

### Палажэньне румынскай арміі.

ШТОКГОЛЬМ. Расейскі пасол пры румынскім дварэ, генэрал Мосолов, паслаў у Пецярбург доўгае данясеньне аб цяжкім палажэньні румынскай арміі ў Румыніі. У румынскай арміі пануе поўны развал. Безраднасць румынскаго ураду паставіла і расейскіе войскі ў вельмі непрыемнае палажэньне. Армія ня можэ накарміцца, як трэба, і блага адзета.

### Сьмерць расейскаго пасла.

ЛОНДОН. Памер гр. Бэнкендорф, расейскі пасол.

### Міністэр-дуэлянт.

ПАРЫЖ. Газэты даносяць с Пецярбурга, што Протопопов вызваў на дуэль гр. Бобрынскаго за яго напасьці ў Думе.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**12.I. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Проці нашых пазыцій пры Армант'ер і Ленс і наабапол дарогі Альбэр—Бапом—востры агонь ворагоў. На поўначы ад Анкр англічане раніцай дарэмна атакавалі. Пры Сэрр атака іх зломлена перад нашымі лініямі. На поўначы ад Вокур, пасьля пачатковых удач, яны сільнай контратакай адкінуты на свае пазыціі. Узяты 50 палонных і 2 кулемёты.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: На заходзі ад Маасу, на Котт, і ў Вогезах артылерыйская і мінная бітва ад часу да часу крапчэла. На вяршыне Комбр і на ўсходзі ад Номіні наш патруль вярнуўся, вядучы 16 палонных.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На Дзьвіне і каля вазёр на палудні ад Дзьвінска баевая чыннасць учора шмат аслабела. Каля чыгункі Вільня—Дзьвінск роты расейцоў адкінуты з вялікімі стратамі. На палудзенным заходзі ад Рыгі ў невялікіх опэрацыях мы ўзялі 32 палонных.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* Учора наабапол даліны Ойтоса ізноў узяты некольк пазыцій ворагоў—адна за аднэй. Апрыч цяжкіх крывавых страт ворагі пакінулі палоннымі 1 афіцэра і 80 салдатоў, 6 кулемётоў і 6 мінамётоў. На поўначы і на палудні ад даліны Сусіта атакі расейцоў не ўдаліся.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: У балотнай нізіне між Браілам і Галяцам мы адціснулі расейцоў далей за Сэрэт. Узята ля Буртэа.

У начы з 10 на 11 студня параходы ворагоў памыкаліся праехаць міма Ісакіі ўверх па Дунаю. Нашым артылерыйскім агнём адзін параход затоплен, а другі прымушэн прыстаць да паўночнаго берэга.

*Македонскі фронт*: На палудні ад возера Орхіда ворагі атакавалі аўстрыяцка-боўгарскі фронт за Чэравай. Пазыціі удзержаны.

**13.I. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На поўначы ад Анкр англічане павялі сягоньня новые штурмы проці Сэрр. Яны, наагул, крывава адбіты. Ворагі ўмацаваліся толькі ў аднэй пярэдняй пазыціі; глаўная пазыція—ў нашых руках.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Баевая чыннасць была незначная.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: Удачнымі атакамі нямецкіх войск на поўначы ад даліны Сляніо здабыты новы абшар. На утрачэных пазыціях ворагі пакінулі палоннымі 4 афіцэроў і 180 салдатоў, 7 кулемётоў і 7 мінамётоў. Наабапол даліны Ойтоса сільные атакі ворагоў проці адважна бараніўшыхся нямецкіх і аўстрыяцкіх войск нічога не дайшлі.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: У мейсцы, дзе Буцауль уліваецца ў Сэрэт, боўгары ўзялі у расейцоў манастыр. На паўночным заходзі ад Браіла туркі ўзялі Міхалеа і 400 палонных. Уцекаўшые расейцы патапіліся ў Сэрэце.

*Македонскі фронт*: На ўсходзі ад Чэрнай адбіты роты ворагоў.

**14.I. Заходні тэатр:**

Апрыч сільнаго агня артылерыі наабапол Соммы, пад даждж͏ом і сьнегам была толькі незначная баевая чыннасць. У начы шмат дзе адбіты патрулі ворагоў.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Без выдатных прыпадкоў.

*Фронт эрц-гэрцога Іозефа*: У усходніх Карпатах, на поўначы ад Залатой Быстрыцы, нямецкіе грэнадзеры ў розных пунктах уварваліся на пазыції ворагоў, прычынілі апошнім цяжкіе страты і вярнуліся з багатай дабычай і палоннымі. На поўдні ад дарогі Ойтоса ўзята штурмам вяршына с 50 палоннымі.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: Благая пагода здзержывала ваенную работу. Расейскае наступленьне на Сэрэце, на паўночным заходзі ад Браіла, адбіто.

*Македонскі фронт:* Між Вардарам і возерам Дойран атака ворагоў проці нашай пазыціі на палудні ад Стоякова нічога не дайшла.

### Аустрыяцкае апавешчэньне.

ВЕНА 14.I. Усходні тэатр: (гл. нямецкае апав.).

**Палудзенна усходні (албанскі) тэатр:** 11 студня часьці трох францускіх палкоў атакавалі аўстрыяц-

